## Уцякачы.

Пярайшоу-пярабег над старонкай маей
Нябывалы дауно, нячуваны віхор,
І заліу, як вадой, зямлю сльозкай з вачэй
І спугнуу-страсянуу болью нутрыны гор.
Як дарожкі вядуць — быццам ралкі бяроз —
І сюды, і туды, удаужкі, упапярок —
Ад зямлі да нябьос-льоскат дробных кальос
Цяжкі енк атдае ад зямлі да аблок...
Паглядзіш — доугі цуг... густы сум давіць твар,
У сяродку, у душы, нязвычайны спалох...
І людзей, і жывьол, як на небя тых хмар,
Што пусціу пагуляць разгнявіушыся бог.
На людзях адабіт дзікім выглядам страх
Крокам спугным, які у пуць няверны жане,
Кроу застыла с пяском на мазольных нагах
Адранцьвела істота у пякельнум агне...
Што прайшлося — у мамэнт вышла с памкі зусім...
Ды нашто азіраць калюшковую пуць?
Хай зйадая агонь хаты цьоплыя, ім
Трэ забыць пра той час іх вярнуць...
Там ні хаты адны — там і гумны стаяць,
Паміж хатак садкі, за гуменцамі луг;
А шчэ далей, за луг, — там дубровы наукруг
Апінаюць наукол, як вянком сянажаць.
І раучук у ліпняку, ды лазінкі над ім—
Палатно разаслана (бы стушкі) — ляжыць;
С пїрапугу забыт — ды няведама кім
Андарачык стары ля дзядулі узлажыць...
Ай, даволі казаць,—даражэй бач німа
Той краіны, дзе жыу, гадавауся і рос,
Дзе іграла вясна, дзе трашчала зіма,
Дзе маленькім гуляу пад ценямі бяроз —,
А патом, штож зрабіць,—хто жывы— пакідай...
І пашлі: з мужыком побач конь, а кароука з жаной,
Бяз яды, бяз надзей ды у няведаны край,
Ад краіны сваей, Беларусі радной...
Рэжа душу так жаль... Хто ж ня зная усяго?
Нават у рыку кароу, у рагатаньню каньоу
Чутны отгук нямы, отгук страху таго,
Што навалай ліхой на краіну зышоу...
Паабапал дарог нівы убрана ляжаць,
Дзе пад жытам яны, а дзе жоутая яр.

Ой, шчасьлівянькі той, хто іх будзя
зжынаць,
Гэты працы свой пльон-ніацэняны
дар!..
Хто хацеу, хто чакау, каму трэба было
Зварушыць, скалыхнуць хлябаробау
спакой?
Каб жыцьцьо наусягды ад яго
адняло,
Чым дарожыць у жыцьці йон, чым
цешыцца той.
Усе пашлі ад гумьон, ад палосак,
плугоу
Па дарожках крывых, цяраз рэчкі
й лясы
Пагублялі дзе хто і сяcьцьор і братоу,
Як часамі снапы губяць так каласы;
Тут дзядуля, тутъ сын — пахавай і
забудзь,
Бо ці пройдзяш калі ужо сюдэма —
наурад...
Но-о, Гнядая, спяшы, дзе канчаїцца
пуць?
— „Саламея, маучы, ня глядзі ужо
назад...“

* * *

Цьомны Ньоман, ад сльоз няхвалюйся
крапчэй.
Абмываіш крывьой берагі ты свае.
Там ля Коуны у цябе Вільля ціха
уцячэ
І крыві і слязін яшчэ больш уліе.
Промінь страшны агню ад Прыпеці
к Дзьвіне —
Стараны мае рэчкі адбіце у вадзе,
Хай патомак загляне ды іх пракляне,
А аб шчасцью люцкомъ рэч сваю
павядзе...
Нам судзіу цяжкі льос жыць у ліхіе
часы,
Працярпелі усяго — мусім далей
цярпець —
Толькі з вераю ужо, што калісь
будзім мець
Долю шчасную й жыцьце пауное
красы...

*Цішка Гартны.*

---

Чыясь свавольная рука,
Красы прадзіунай матылька
Злавіушы, шпількаю прабіла...
Я бачыла як йон дрыжау,
Як мучыуся пакуль сканау —
Каханак ружы ясны, мілы.
І хоць красою, як дауней,
Йон вабіць погляды вачэй. —
Скрыл туркусовыя блакіты
Расьпяты як да льоту зноу—,
Глянь: щпількі рог наскрось
прайшоу—
Ні датыкайся: йон прабіты!
Так ты пагляд жывы вачэй
Убіу у глуб душы маей,
Ня шчырай галубіу рукою,
І пацалунак льогкі твой
Затрос мяне з жывой душой—
І сэрца аблілось крывьою...
Яно і бьецца і жыве,
Кроу унялася—ня плыве,
І рана ужо рубцом прыкрыта.
Ды боль ня спыніцца у йом,
Запаляным тугі агньом...
О ні чапай: яно прабіта.

*Констанція Буйло.*

---

## Бацькава воля.

Раман Цішкі Гартнага

---

Часьціна Першая.

Ужо зусім зьвячарэла, калі Зося прывяла с пашы каня. На вуліцы было цямнавата, але жыцьцьо і ня думала заміраць: на прызбах там і сям сядзелі мужчыны і бабы у сьвятошніх апратках і вялі між сабою рэзвыя гутаркі, у якіх часта прабіваус вясьолы і бязклапотны рогат, жарты і выгукі. Пасярот вуліцы доугім цугам пляліся с пашы худыя, дробныя і панурыя кароукі, стрэламі імчаліся такіяж тонкія замораныя свіньні; зьбіушыся гуртам і сполахна азіраючыся, дрыгалі упэцканыя пастрыжаныя гавечкі, і пыл стаяу слупом. Рык кароу, рохканьне свіней і мэканьне гавечак, а таксама нясьціханы крык дзяцей, якія ня лепш, як гавечкі, гаукліся на вуліцы, запыляныя і

замурзаныя, ганяючыся адно за другім,—усьо гэта яскрава сведчыла аб тым, што, ня гледзючы на звячорак, жыцьцьо у мястэчку Сілцох біла крыніцаю.

Завьоушы каня на прыгумень, Зося барджэй пабегла у хату, каб чаго піракусіць, вымерхаушыся за дзень. І вось, толькі яна піраступіла парог, як раптоуна с хаты на стрэчу ей кінулася яе малодшая сястрычка, замурзаная, пілявая Тэклячка і падаючы ей пісьмо праляпятала:

— Вось табе, Зоська, пісьмо прыньос паштальон.. яшче с самага ранку я яго хаваю, нават і мамі ні паказвала.

Эося, нічога ня кажучы, барджэй выхапіла пісьмо з рук сястрычкі і, забыушы нават пра яду, павярнула ізноу у сенцы.

У сенцах яна скінула з сябе старую пашарпаную світку, парудзелыя шкарбаны і зблеклую шаліноуку, узяла на століку газніцу, якая заусьоды стаяла у сенцах пад рукамі на усякі ніспадзіваны прыпадак, запаліла яе і, прысеушы на у слоне, далікатна і з нейкаю панскаю асцярогаю разадрала з самага беражку руды, прымяты кабэрцік, дастала аттуль скрэмзаную гранатовымъ атрамэнтам паперачку і пачала, бэкаючы знарок, чытаць. „Дараженькая, шаноуная Зоська“, гэтак пачыналася пісацца у пісьме: „кожны дзень.. што я кажу.. нават кожную гадзіну я імчуся у сваіх думках туды, к табе, на кнею свае роднае краіны, у свайо дарагоя мястэчка Сілцы.

Твой сьвяты і бязмерна дарагі ля мяне абраз, ні атходна луная перада мною і — дзе я ні павярнуся, а куды я ні азірнуся. Цэлымі дзянькамі карпеючы у хвабрыца і чуючы бязсціханны шум і грукат машын, мне здаецца, што гэта трашчаць і грукочуць ні страшэнныя хвабрычныя машыны, а кальосы мужычых драбін ды панарадау, хутка коцючы с гор па камяністым, каляістым сцежкам родных палеткау. Даляй мне здаецца, што на гэтых драбінах ды панарадах, як і заусьоды, езьдзіш і ты, разам з другімі сілкаускімі працоунікамі-хлебаробамі с свайго поля посьля ворыва ці баранаваньня, і, заусьоды вясьолаяі жыцерадая, з гасьцінна атплюшчанымі вачыма, з льогкім маладзьоністым рыжам на свежуй пекнуй тварыне. Каханая Зоська! Паусьвету прамандравау, мільоны дзійчат бачыу, але нігоднае ня змог падмеціці каб хоць каліва на цябе паходзіла. І ня толькі мільонау, а с цэлаго сьвету лзіучат на цябе аднюсяньку ні памяняю“...

Зося атхілілася ад пісьма, глыбока і зацяжна уздыхнула, апьяньоная наляцеушым шчасьцям і радасьцю; пачакала крыху ды падумала, і здавольная лісліваю але і мілаю Рыгораваю хвальбою (а пісьмо было ад яе каханка Рыгора Нязвычнаго), зьлогку усьміхнулася і далей узялася чытаць: „Я гэтак прагну дамоу, так ірвуся на родзіну, каб барджэй прыехаць у Сілцы, дзеб сумеу убачыць цябе, абняць и пацалаваць, што проста ня ведаю як дачакацца тых сьвят, тае Тройцы... Ведаїш, бач, Зосюлька, гэта ж на Тройцу я маю быць дома: мяне пускаюць на цэлых пяць нядзель на пабыуку, у госьці, і я... убачуся з табою, даражэнькая Зоська“...

Прачытаушы гэта, Зося ажно падскочыла ад радасьці, весяла завярцела галавою, прыжмурыла вочы і учуткі, ня судзержыушыся, пракazala сама сабе: „А Божачка каханы! Няужо я усяго гэтаго ня сню? Ой, прышлі Ты скарэй тую Тройцу.“

Гук яе слоу даньосся і у хатку, дзе знайходзілася адна Тэклячка. Дзяучынка зразу разчула Зосіны словы і падумала, што тая чагось патрэбуя яе і выклікая у сенцы; вось яна падбегла к дзьвярам, адчыніла іх крыху і запытала:

— Чаго хочыш, Зоська?

— Нічога ні хачу... Хочыш, хочыш... я цябе ня клікала, — выва-

рачывалася Зося на сястрычку, нї адварочваючыся ад пісьма.

Тэклячка ад крыуды прагаманіла і барджэй зачыніла дзьверы.

Зосю дрэнчыла дачытаць.

— „Так вось-жа", пісау пад канец Рыгор: „чӑкай мяне напэуна, Зоська, к Тройцы: я прïеду... А, тым часам, бывай здарова і шчасна. Жадаю табе усяго найлепшага у тваім жыцьці. Шчыра цябе вітаю і цалую твае шчокі і губкі. Твой шчыры на векі Рыгор".

Дачытаушы да канца пісьмо, Зося пїрагарнула яго ізноу к пачатку, паглядзела на першыя словы, пачӑкала з хвілінку і прынялася ізноу чытаць, другоны раз, ужо выгаворваючы многія словы учуткі. За чытаньням яна запомніла, што час быу позны, жыцьцьо на вуліцы начало глухнуць; пра яду яна так сама забылася. Гэта пісьмо ад Рыгора, якога Зося чакала ужо цэлы месяц, так у зрадаваў яе, што апроч яго (пісьма), йой —здавалася—больш нічога ня трэба было на сьвеця...

— Ах, — раптам адарваушыся ад пісьма прагукала Зося: „а тая ачамера бадай ізноу скора прыплішчыцца. Эх, як йон мне адвароцен, гэты Васіль; бач німа на яго ніякае пагібялі: ня адчапіцца ды годзі. І чаго йон, немач на яго, ушалопау сюды швэндацца, чаго? Ні сораму, ні брыдкасьці за сабою ня чуя...

Але Зося нї пасьпела дацягнуць да канца свае разсуды, як чыйсь гоман на дварэ, ікрас ля сеняшніх дзьвярэй, пїрашкодзіу ей. Зосі паказалася, што то няйначы як Васіль з яе бацькам гамоня. Ня хочучы спаткацца з імі у сенцах, яна хутчэй схапіла са стала пісьмо, барджэй згарнула яго унекулькі столак і захавала у кішаню, сама ж затушыла газніцу і ускочыла у хату.

— Зоська, га Зоська, вунь Васіль к табе ідзе, паднарадзіся хаця у ляпейшую спадніцу, — стрэла на парозя Зосю Тэклячка.

— А табе якоя дзела? Яшчэ, бок, што! Ня мела чаго рабіць! Шышка вельмі, вялікая — Васіль,— ніздавольная адказала Зося і пачала нырпаліць у мыцяльніку, каб чаго знайсьці пїракусіць.

— Тэкля, ці нї аставілі мне чагонебудзь паесьці? — лісліва абярнулася Зося к сястрыцы.

— Пачӑкай крыху, пасьпеїш, вымерхалася вельмі; вось войдуць у хату мама і будзям разам вячэраць.

— А дзе ж тая, мама?

— На дварэ, вунь, зараз вой дзя, — атказала Тэклячка.

(Далей будзя).

---

## Думкі да граматыкі.

Кажуць разумныя людзі, што найлягчэй былобы вучыцца пісаць тады—каліб была мода пісаць ікрас такъ як словы выгаварываюцца. Досьць былоб выучыцца літары, а тады — пішы толькі тыя літары, якія азначаюць чутыя гаманкі.

У словя „цэп" чуваць гаманкі: ц, э, п. Пішучы — гаманкі замїняюцца літарамі: ц, э, ц.

Кажучы слова „боб" нельга напэуна ведаць што пісаць на канцы слова: ці „б" (боб), ці „п" (боп).

Нікаторыя грамчэй выгаварываюць гаманкі—дык у такіхъ выходзіць з гутаркі: „боб"; а нікаторыя прыцішней выгаварываюць гаманкі—дык у такіх выходзіць з гутаркі: „боп".

Алі ня толькі гэта во слова — ды шмат іншых яшчэ слоу нельга згадаць як лепі напісаць.

Вотаж прыходзіцца вышуківаць у людзкой гутарца тыя правілы — якіх трэба трымацца пішучы, каб быу лад у пісаньню.

* * *

Ведама, што гаманок „а" самы льогкі у Беларусоу да выгавору. Алі каб спраудзіцца — чаму беларускую гаворку называюць „акаюшчай" — варта прыкмеціць ось што.

Кажыцца:

голад — галодны — галадоука — галадаваць,
зьмецїна—зьмяцець, мьоу—мяла.

З гэтага відаць, што гаманкі „О„ і „Э Е“ любюць быць пад націскам у славах. З таго складу, з якога націск занікаіць—дык занікаіць і гаманок „о“ і „э—е“, ды на іх мейсцä зйауляіцца „а“. Гаманок „а“ праз тоя часта пападаіцца у славах.

Выходзіць во добрая да граматыкі правіла, што „о“ і „э—е“ пісаць трэба тады, калі на іх пападаіць націск у словя.

Алі у нікаторых славах гэта напэуна так йосьць (дом—дамоука—дамауйо, вечар — вячэра— падвячорак), а у нікаторых славах ні сусім так пэуна, праз тоя адны пішуць :

цана, другія: цэна,
чаму „ чэму

Хто у няпэуных разох, замест „о“ ці „э—е“ пішыць „а“, за тым больш прау. Алї каб пагадзіць адных з другімі дык добра былоб у падобных разох пісаць ось якую літару: „ӓ“. Гэта значыць—ні сусім пэуны, ні ясны гаманок цьвьорды.

З часамъ йон можыць вывясьціся, як выводзіцца з расейскага Ѳ. Алі цяпер „ӓ“ патрэбна у пісьме, каб усе аднастайна маглі азначаць ні ясны цьвьорды гаманок—часьцей падобны да „а“, а часамі да „о“ (шыло—шыла) і да „э—е“ (сэрцэ—сэрца, поле—польа).

* * *

З гучныхъ мяккі гаманок адзін толькі йосьць у Беларусоу, гэта „і“. Да выгавору йон льогкі. Ясна йон чуваць так пад націскам як і біз яго. Часта пападаіцца у такім складзі, дзе спадзіваіцца трэба былоб другога гаманка:

нанімай (наняты)
прывітайся (прывет)
упірайся (упьорся)

З гэтага відапь, што „і“ любіць быць у мяккім складзі—калі націск (акцэнт) у словя далей стаіць гаманком „а—я“.

Ось добрая да граматыкі другоя правіла, што у мяккіх складах, замест гаманкоу „а—я, э—е, о“, пісаць трэба гаманок „і“ — калі далей у словя над „а—я“ стаіць націск.

Значыцца пісаць трэба так: німа (замест нема—няма), дзіця (дзеці, дзяцей), зьбірай (замест зьбярай, зьберай) пікарня (пяку, сьпечаны, пьок).

У нікаторых славах ні сусім напэуна пісаць так можна. Кабжа аднастайнага спосабу пісаньня усім трымацца—добра былоб у падобных разох пісаць ось якую літару: „ї“ Гэта значыць — ні сусім пэуны, ні ясны мяккі гаманок.

(Далей будзя у № 2)

*Акцьуб.*

---

## Аб Беларускум унівэрсытэці.

Перш у Магілеві-Губэрская Земская Зборышчä, посьля у Вітабску Губерская Земская Управа, далей Мінская Гарацкая Дума—усе чуць ні на адным тыдню хапіліся за думку старацца аткрыць беларускі унівэрсытэт, кожны у сваім горадзі і кожны ад іх рашылі прасіць аб гэтым правіцельствä—магілёуцы сабе, мінчане сабе, а вітабцы сабе. Разамъ з гэтым кожны ад іх стараюцца даказаць, каму з іх унівэрсытэт зручней мець і патрабней чымсь другому.

Нідатыкаючыся апошняга, мы дужа рады гэткай навіне і ад душы падтрымлі ваім патрэбу унівэрсытэту для Беларусі. Беларусы, у гуртку сваіх шчырэйшых сыноу, з дауных пор падняли гэту думку і усю пору кахалі яе, шырылі. Ні раз рабіліся пробы хадайнічаць перад правіцяльствам аб дараваньні унівэрсытэту Беларусі. Але сярод правіцяльства было гэткая разуменьня, што Беларускі унівэрсытэт можä саслужыць яму шкодную службу, што напло-

дзіць сэпараратыстау. Вядома, гэткая разуменьня ня мела (як і цяпер ня маіць) слушнасьці і кожнаму гэта павінна быць ведама. Тымчасам патрэбнасць унівэрсытэту для Беларусі, абшырнага краю, зусім астаулінага бяз вышэйшай школы, натта і натта даецца у знакі. Беларусі унівэрсытэт патрэбны як хлеб! Беларусь адна ад бяднейшыхъ і цямнейшых старонак. Сыны, дзеці яе, праз дзісяткі і нават сотні гадоу мусілі пакідаць сваю краіну і ехаць дальока, у чужыну, каб найсьці там асьвету; а знашоушы і атрымаушы яе, ужо ні варочаліся дамоу, а аставаліся там і атдавалі свае сілы і розум чужынцам.

Як навука, так і музыка народау шмат абагацілася за шчот беларускіх пісароу і музыкантау. Сама-ж Беларусь заставалася цьомнай, беднай...

І хто ня выясьняу сабе усяе страты ад гэтага, толькі той аставауся праступным нямком. Але далей-болі і нямкі змушаны былі загаварыць, бо сазналі тую прауду, што: як моцнаму, так і слабеому, як багатаму, так і беднаму аднаковы вораг цямната сваей старонкі. Значä, усе павінны з йой ваяваць...

Беларусі патрэбны унівэрсытэт—усьо роуна дзе б яго ні залажылі: у Мінску, Вітабску, або Магілеві. Йон усьороуна павінян быць для беларусоу і звацца Беларускім. Дык па нашаму, ня трэ траціць слоу на спорку аб тым--дзе, у яком горадзі ці мейсцы спадручней, ці выгадней мець унівэрсытэт, а трэ усе стараньня злучынь у адно каб скарэй дастукацца сьветача краіны...

Беларусі патрэбны унівэрсытэт!

*Змітро Капылянін.*

## Абспажытковай бядзе.

С кім ні загаворыш, каго ні паслухаіш—усьо гутарка аб дâрагоулі, аб тым, што з кожным дньом цяжэй і цяжэй црыходзіцца даставаць то цукір, то маслä, то мясä. Усьо болі паднімаіцца цана на дровы, на апратку, на ежу розную. Усьо гэта дужа пужа я грамадзянства, родзіць стрâх аб заутрашні дзень.

Адно къ другому і злажылася так, што спажытковая бяда узлезла на языкі і сталі людзі аб ей гаварыць і пісаць; збударажыла яна грумâдзянства і дакацілась да правіцільства. Апошняя само прынялося уладзіць бяду,

На днях, сабраная у Дзержаунай Радзе (у Гасударскай Думе) бюджэтная камісія радзілася аб гэнай справе. Пад той час у Гасуд. Думу прыехау міністар унутраных спрау, які у сваей прамове давьоу да ведама членау Думы абусім тым, што правіцяльства думая рабіць са спажытковай бядой і як стаіць палажэньня з прыпасамі яды. С прамовы міністра можна угледзіць, што хоць і ня дужа усьо гладка, але яно пастараіцца усьо уладзіць. Каліж дапутаты выказалі пажаданьня пірадâць справу люцкога давольства самому грамадзянству, то правіцільства аставіла гэта бяз атказу.

*Д. Ж—ч.*

**Капыль,**

*Змітро.*

## Навіны

немцы абйавілі забраную у Расеі часьціну Польшчы асобным гасударствам са сваім монархам (царом) і са сваім выбіраным правіцільствам. Разам з гэтым абйауляіцца і набор людзей у Польшчы у войска і што набраныя салдаты прылучаюцца да арміяу аустрыяцкай і нямецкай.

Маніфэст, аб усьом гэтым падпісаны толькі нямецкім генерал-губернатарам.

* * *

З заграніцы пішуць, што губерскія упрауленьня з Гродна піранесіны немцамі у г. Беласток.

## Беларуская Вечарына

12 Лістапада гэтага году адбудзіцца у тэатры „Поллак" (Піцяр, Галерная вуліца, д№ 33). На сцэня будуць дзьве штукі: „Як яны жаніліся" і „Па рävізіі", а тады скокі. Па усім гэтым на салі у тэатры будуць скокі і гульні для усіх. Білеты на „вечар" цаной ад 1 р. 05 к. да 4 р. 75 к. прадаюцца загадзя у Камітэця Беларускага Таварыства для помачы пацярпеушым ад вайны. (Знамінская вуліца, д № 36, кв. 54; тэлефону № 253—49). Мейсц усяго трыста.

Рäдактор-выдавец Д. Жылуновіч.

„Русско-Французская Типографія" Офицерская, 6.